



# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 51 (930) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 23 СНЕЖНЯ 1973 г. ЦАНА 60 гр.




Заслужаны беластоцкі калектыў „Курпі зялёныя“ ўжо 20 год паспяхова папулярызуе польскія народныя песні і танцы. На нашым здымку бачым калектыў у час аднаго з канцэртаў на сёлетнім турнэ па Румы ніі (да матэрыялу на стар. 3). Фота Г. Рагазінскага

## З РАЗМОВЫ АБ БЕЛАВЕЖЫ

Дырэктар падставовай школы ў Белавежы Пётр Тарасэвіч, ён жа I сакратар гміннага камітэта партыі, адразу на пачатку нашай размовы падкрэсліў некалькі, на яго думку, важных спраў свайго асяроддзя. Усе яны былі цесна звязаны з працай школы і гміннага камітэта партыі.

Апорай дырэктара школы з'яўляецца дружны настаўніцкі калектыў. У зборнай гміннай школе — больш чатырохсот вучняў. Таму і настаўніцкі калектыў даволі вялікі. Дзякуючы добраму супрацоўніцтву настаўнікаў і бацькоўскага камітэта ў школе ўдалося зрабіць нямала карысных спраў. Вось хоць бы рамонт школьнай сталоўкі, будова і прыстасаванне для школьных патрэб падвальных памяшканняў, будова дадатковага будынка майстэрняў. Усё гэта было зроблена ўласнымі сіламі, а кошты — толькі кошты будаўнічых матэрыялаў. Працавалі пры гэтым усе — вучні, настаўнікі, бацькі.

У зборную гмінную школу прыязджаюць дзеці з пушчанскіх вёсак — Будаў, Пагарэльцаў, Тэрэмісак. Ва ўсіх вёсках устаноўлены зборныя пункты, каб дзеці не мерзлі на вуліцы. Гэта пераважна школьныя будынкі ці святліцы.

Настаўнікі наведалі сваіх вучняў у гэтых вёсках, гаварылі з бацькамі, цікавіліся ўмовамі жыцця. Усё гэта для таго, каб ведаць, як дапамагаць кожнаму дзіцяці, каму трэба даць зніжку на харчаванне ў школьнай сталоўцы. Давозам дзяцей занялося надлясніцтва. Штодзень раніцай і пасля поўдня тры закрытыя машыны надлясніцтва кіруюцца ў пушчу і назад. Усё згодна з раскладам заняткаў, ніякіх спазненняў і непатрэбнага чакання.

Іншая тэма нашай размовы з дырэктарам Тарасэвічам — з грамадскага кірунку яго працы.

Па ініцыятыве гміннага камітэта партыі, пры дапамозе ўсіх прадпрыемстваў Белавежы будуецца грамадскім чынам дарога праз пушчу ў вёску Тэрэміскі. Дзякуючы супольнай працы сёлета Белавежа выйшла на першае месца ў павеце ў продажы мінеральных угнаенняў. А гэта ўжо немалое дасягненне, калі прыняць пад увагу факт, што жыхары Белавежы менш звяртаюць увагі на даходы з сельскай гаспадаркі, бо працуюць у лесе, настаўляюцца на турыстыку і інш.

Гмінны камітэт партыі быў таксама арганізатарам цікавай сустрэчы жыхароў мястэчка з ветэранамі II сусветнай вайны, членамі ЗБоВіД. Сустрэча адбылася ў гонар 30-годдзя ўтварэння Людовага Войска Польскага. Пасля афіцыяльнай часткі ўсе ўдзельнікі сустрэчы паехалі ў пушчу, дзе пры кастры былыя салдаты і партызаны дзяліліся з моладдзю сваімі ўспамінамі, спявалі школьны хор і белавежскі рэгіянальны калектыў. Аб гэтай прыемнай сустрэчы яшчэ цяпер успамінаюць у Белавежы.

Адным з дасягненняў у працы грамадскіх арганізацый Белавежы, як падкрэсліў тав. Тарасэвіч, з'яўляецца пунктуальнасць. Людзі навучыліся шанаваць час і прызвычаіліся, што кожная сустрэча, кожны сход пачынаецца строга ў вызначаны час. Дзякуючы гэтаму кожны можа знайсці гадзінку, на карысную справу, не баіцца, што можа змарнаваць паўдня, як яшчэ нярэдка здараецца ў іншых мясцовасцях.

(Працяг на стар. 4)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“



## РОДНАЯ МОВА ДАПАМАГАЕ...

Вялікі перапынак. Адны з вучняў, шпацыруючы па калідоры і школьным скверыку, гартаюць сшыткі і падручнікі, каб яшчэ раз для ўпэўненасці паўтарыць матэрыял да наступнага ўрока, другія пазычаюць кнігі ў школьнай бібліятэцы, іншыя выбеглі на школьны стадыён і прабуюць складаныя практыкаванні. Школа жыве сваім нармальным працавітым днём.

Янка Сапежка, вучань IV „б“ класа Гайнаўскага беларускага ліцэя няскоры на громкія словы. З-за акуляраў глядзяць на мяне разважлівыя і ўдумлівыя вочы.

— Ведаеце, я вывучаю беларускую мову ад першага класа пачатковай школы, — кажа ён. — Вельмі цікаўлюся гэтым прадметам. Гэта ж мая родная мова! Як жа можна адносіцца да яе абыякава?! Паходжу я з сялянскай сям'і з вёскі Пуціска. Не толькі ведаю жыццё нашых сялян, але і сам у вольны ад навукі час працую на гаспадарцы. Вершы, апавяданні, аповесці беларускіх пісьменнікаў паказваюць вялікую праўду аб жыцці працоўнага чалавека. І калі ў пятым класе пачатковай школы можна было хадзіць або і не хадзіць на заняткі беларускай мовы, я нават і на момант не задумваўся, сказаў сабе адразу — ад свае роднай мовы

(Працяг на стар. 4)



## БГКТ ХРОНІКА

■ У Новай Волі (гміна Міхалова) гурток БГКТ складаецца з тых самых асоб, што і гурток Саюза сацыялістычнай вясковай моладзі. З тых самых людзей складаюцца таксама праўленні гуртkоў. Там усё супольнае: культурна-асветная дзейнасць, сходы і планы працы. Нядаўна на супольным справаздачна-выбарным сходзе з дакладам выступіла старшыня гуртkоў БГКТ і ССВМ настаўніца Гэлена Андрушкевіч, якая падсумавала добрую супольную працу гуртkоў, паказваючы адначасова некаторыя недахопы. Пасля дыскусіі і прыняцця плана супольных мерапрыемстваў у 1974 годзе прысутныя выбралі зноў супольнае праўленне ўспомненых гуртkоў, у склад якога ўвайшлі Аляксандр Філіпчук — старшыня, Ірэна Івановіч — сакратар, Мікалай Семянюк — скарбнік. Прысутная на сходзе сакратар Беластоцкага павятовага праўлення аддзела БГКТ Яўгенія Іванюк уручыла членам БГКТ новыя членскія білеты.

■ Гурток БГКТ у Паўлах (гміна Заблудаў) прыступіў да падрыхтоўкі драмы Аркадзя Маўзона „Дарога праз ноч“. Мастацкім кіраўніком з'яўляецца дырэктар мясцовай школы Валянціна Мароз.

■ Члены БГКТ у Меляшках (гміна Гарадок) пад мастацкім кіраўніцтвам дырэктара школы Зінаіды Літвін далей працуюць над мясцовымі фальклорнымі пастаноўкамі. Самі яны рыхтуюць тэксты для паасобных роляў, заснаваных на былых і яшчэ дагэтуль існуючых вясковых звычаях. На аглядзе тэатральных калектываў БГКТ у 1973 годзе яны дасканала выступілі з пастаноўкай вясковага вяселля, а ў 1974 годзе пакажуць мясцовую вясковую вечарынку. Пачаліся ўжо рэпетыцыі.

■ Харавая група гуртка БГКТ з вуліцы Горнай у Гайнаўцы 7 снежня ў доме культуры „Гурнік“ выступіла ў канцэрце, арганізаваным у час сустрэчы моладзі з кандыдатамі на радных і ўручэння 20 асобам даводаў асабістых.

■ 7 снежня ў памяшканні варшаўскага аддзела БГКТ адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 120-ай гадавіне з дня нараджэння Міхала Федароўскага — вядомага збіральніка беларускага фальклору. У гонар гэтай гадавіны на польскай мове выйшла кніжка сабраных ім казак у перакладзе Аляксандра Баршчэўскага. Аляксандр Баршчэўскі расказаў прысутным аб жыццёвым і творчым шляху Міхала Федароўскага, аб працы над перакладам, а таксама адказаў на шматлікія пытанні.

■ 8 снежня гданьскі аддзел БГКТ запрасіў сваіх членаў на даклад д-ра Аляксандра Баршчэўскага пад загалоўкам „Польска-беларускія літаратурныя сувязі ў XIX і XX стагоддзях“. Пасля даклада адбыліся выступленні салістак аддзела. (мх)

# Першая сесія новавыбранай ВРН

У сераду, 12 снежня 1973 года, нававыбраныя радныя ВРН сабраліся на сваю першую сесію. Ёсць іх разам 120 асоб, у тым ліку 50 працэнтаў рабочых і сялян, 36 жанчын і 24 дзеячы маладзёжных арганізацый. Прысутных на сесіі было 105 радных. Урад прадстаўляў намеснік Прэм'ер-міністра **Здзіслаў Томаль.**

Сесію адкрыла старэйшына радных, настаўніца з Ломжы **Анеля Ракіцкая.** Падзякаваўшы за высокі давер, яна сказала, што радныя ў час першай сваёй сесіі павінны выбраць старшыню рады, трох яго намеснікаў і сем старшынь камісій Ваяводскай рады, якія разам са старшынёю і намеснікамі ўвойдуць у склад Прэзідыума ВРН.

„ Гады новай кадэнцыі, — гаварыла А. Ракіцкая, — будуць мець для нас асабліва вялікае значэнне. Нам трэба змагацца за канчатковае ажыццяўленне грамадска-эканамічнай праграмы VI з'езду Польскай аб'яднанай рабочай партыі. Трэба нам таксама павышаць прадукцыйнасць працы, яе якасць, эфектыўнасць і культуру... Я глыбока веру, што Ваяводская рада з гонарам апраўдае давер сваіх выбаршчыкаў...“

Затым Анеля Ракіцкая склала ўрачыстую прысягу: **„Урачыста прысягаю працаваць радным для дабра польскага народа, паглыбляць яго адзінства, умацоўваць сувязь дзяржаўнай улады з працоўным людам, клапаціцца пра яго справы, не шкадуючы сваіх сіл для выканання заданняў рады нарадовай“.**

Словы прысягі яшчэ раз урачыста разносяцца па зале. Усе радныя слухаюць іх стоячы. А пасля самы малодшы сярод іх, **Чэслаў Свяжбінскі,** па чарзе называе прозвішчы кожнага раднага, а той з павагай і з пачуццём адказнасці паўтарае: „ПРЫСЯГАЮ!“ Гукі нацыянальнага гімна заканчваюць урачыстую частку першай сесіі ВРН.

**Ад гэтага моманту рада ўжо поўнасцю правамоцная вырашаць усе справы** ваяводства. Першым яе праўным актам і абавязкам з'яўляецца выбар старшыні рады і яго трох намеснікаў. Слова бярэ сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку, старшыня калектыву радных — членаў Польскай аб'яднанай рабочай партыі тав. **Уладзіслаў Юшкевіч** і ад імя **Ваяводскай кансультатыўнай камісіі партыі** і палітычных стронніцтваў прапануе даверыць абавязкі старшыні ВРН члену ЦК ПАРП, паслу ў Сейм ад Беласточчыны, першаму сакратару Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку тав. **Здзіславу Куроўскаму. Гэтую прапанову ўсе прысутныя вітаюць бурнымі апладысментамі.** Адначасова Ул. Юшкевіч запрапанаваў, каб намеснікамі старшыні ВРН былі **Уладзімір Міхалюк,** які і дагэтуль ужо шмат гадоў быў намеснікам старшыні Прэзідыума ВРН, а раней кіраваў працай Павятовага камітэта ПАРП у Беластоку, **Ежы Гжыбчак** — старшыня Ваяводскага камітэта Аб'яднанага стронніцтва людовага і **Здзіслаў Пукорскі** — старшыня Ваяводскага камітэта Стронніцтва дэмакратычнага. Такім чынам кіраўніцтва ВРН аказалася б у руках прадстаўнікоў асноўных грамадска-палітычных сіл нашага ваяводства. Усіх кандыдатаў рада зацвердзіла аднагалосна ў адкрытым галасаванні. І зноў бурнымі апладысментамі ўсе прысутныя павіталі выбар **З. Куроўскага** старшынёй ВРН. Анеля Ракіцкая пажадала яму і яго намеснікам самых лепшых дасягненняў у паглыбленні аўтарытэту рады і ажыццяўленні вялікіх задач. **„Працуйце і кіруйце так,** — гаварыла яна, — **каб Беластоцкае ваяводства стала адным з лепшых у нашай сацыялістычнай Айчыне“.**

Затым яна перадала кіраўніцтва сесіяй нававыбранаму старшыні ВРН З. Куроўскаму, які падзякаваў за давер і сказаў: **„Я асабліва моцна хачу падкрэсліць, што застаючыся верным ідэям партыі, якой з'яўляюся членам, я зраблю ўсё, што толькі магу зрабіць, каб як найлепш служыць працоўнаму люду Беласточчыны“.** Адначасова З. Куроўскі заклікаў усіх радных і працаўнікоў ваяводскага, павятовых і гмінных упраўленняў, каб ахвярна працавалі дзеля ажыццяўлення гэтых шматлікіх складаных і адказных задач, якія паставілі перад імі партыя, урад і выбаршчыкі.

Затым слова ўзяў намеснік Прэм'ер-міністра **Здзіслаў Томаль.** Прыступаючы да выбараў, — сказаў ён, — Фронт адзінства народу прыняў сваёй праграмай указанні **Першай краёвай партыйнай канферэнцыі,** якая апрацавала шмат вышэйшыя ад раней планаваных задачы на другую палавіну гэтай пяцігодкі. Грамадскасць усёй краіны поўнасцю адобрыла гэтую праграму ў час выбараў. З. Томаль станоўча ацаніў усе пераўтварэнні, якія на працягу трох апошніх гадоў здзейсніліся ў Беластоцкім ваяводстве. **„Хутка расце,** — гаварыў ён, — **прамысловая прадукцыя, якая ў параўнанні з 1970 годам павялічылася аж на 40 працэнтаў, паспяхова развіваецца сельская гаспадарка“.** Канчаючы сваё выступленне, З. Томаль заявіў:

**„Хачу паінфармаваць Высокую Раду, што Прэм'ер-міністр тав. Пётр Ярашэвіч рашыў даверыць пасаду Беластоцкага ваяводы доктару Зыгмунту Спрыху, і ў сувязі з гэтым загадаў мне выслухаць вашу апінію...“**

Гэтыя словы радныя ВРН сустрэлі доўга незмаўкаючымі апладысментамі.

Пасля перапынку месца старшыні Сесіі заняў Уладзімір Міхалюк, які паінфармаваў, што Старшыня Рады Дзяржавы, прафесар **Генрык Яблонскі** адпаведным актам **пацвердзіў правамоцтва выбару Здзіслава Куроўскага старшынёй ВРН у Беластоку,** а З. Томаль ад імя Прэм'ер-міністра Пятра Ярашэвіча ўручыў **намінацыйны акт на беластоцкага ваяводу доктару Зыгмунту Спрыху,** які такім чынам афіцыйна пачаў выконваць свае абавязкі і заняў месца ў **ложы ваяводы.**

Пасля гэтага з праграмным дакладам выступіў старшыня ВРН, першы сакратар ВК ПАРП тав. Здзіслаў Куроўскі. Ён правёў аналіз выбарчай кампаніі і ўказаў галоўныя напрамкі развіцця Беласточчыны ў бліжэйшай будучыні. Між іншым ён сказаў:

„Мы хочам, каб задачы, планаваныя на 1974—75 гады, стварылі неабходныя ўмовы для далейшага паспяховага старту ў ажыццяўленні праграмы развіцця ваяводства ў наступнай пяцігодцы. Асновы гэтага плана ўказвае канцэпцыя развіцця Беласточчыны да 1990 года, апрацаваная Ваяводскім камітэтам і Ваяводскай радай. Гэтая канцэпцыя вызначае тры галоўныя напрамкі:

— сельскую гаспадарку разам з харчовай прамысловасцю — гэта першы напрамак;

— перапрацоўчая прамысловасць, якая ў асноўным базіруе на мясцовай сыравіне, — другі напрамак;

— турызм — трэці перспектыўны напрамак нашай гаспадаркі...“

Пасля выступлення З. Куроўскага разгарнулася дыскусія, у час якой радныя — прадстаўнікі розных грамадскіх асяроддзяў — выказвалі сваю падтрымку праграмы далейшага развіцця Беласточчыны. Па прапанове старшыні сесіі Ул. Міхалюка **радныя прызналі праграмны даклад старшыні ВРН за аснову дзейнасці Ваяводскай рады.**

**В. Рудчык**



**На I сесіі нававыбранай ВРН.** Фота З. Зарэмба

# З БССР

## КАЛГАС „ЗАРЭЧЧА“

Калгас „Зарэчча“ — адна з лепшых гаспадарак Уздзенскага раёна па вытворчасці мяса. Сёлета калгас таксама першы ў раёне. Сем лепшых жывёлаводаў калгаса ўзнагароджаны знакамі „Пераможцы сацыялістычнага спаборніцтва 1973 года“. За дасягнутыя поспехі Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР узнагародзіла калектыў жывёлагадоўчай фермы брыгады № 1 калгаса „Зарэчча“ Ганаровай граматай і грашовай прэміяй. Праўленне калгаса ўзнагародзіла перадавікоў таксама грашовымі прэміямі, а даярка Лідзія Шышка атрымала бясплатную турысцкую пуцёўку для паездкі ў Балгарыю.

## РЫБНАЕ ЖНІВО

Рыбаводы Беларусі выканалі гадавы план. Адлоўлена 86 тысяч цэнтнераў таварнай рыбы. Звыш плана ў гандлёвую сетку паступіла яшчэ 2200 цэнтнераў рыбы. На блакітных нівах сёлета атрыманы добры ўраджай — з кожнага гектара сажалак адлоўлена амаль па 10 цэнтнераў прадукцыі. Багацейшы стаў і асартымент рыбы. У вадаёмах Беларусі пасяліліся серабрысты карась, белы амур, сазан, судак. Пачалося развядзенне фарэлі і асятровых.

## АРШАНСКІ ЛЬНОКАМБІНАТ

Звыш паўтары тысячы разнастайных тканін выпускаюць на Аршанскім льнокамбінаце. Абрусы, капы, сурвэткі, парцьеры ахвотна купляюць не толькі ў Беларусі, але і ў Эстоніі, Грузіі, на Украіне і ў Казахстане. Льняныя вырабы экспартуюцца таксама за межы СССР. Аршанскі льнокамбінат — першае прадпрыемства ў краіне, дзе пачалі выпускаць батыст. З выхадам на праектную магутнасць трэцяй чаргі камбіната тут штогод будуць вырабляць 2 мільёны 800 тысяч метраў гэтай прыгожай тонкай льняной тканіны.

## ТЫСЯЧАГАДОВЫ РАГАЧОЎ

Старажытны гарадок на Дняпры — Рагачоў пастарэў за адзін год адразу на стагоддзе. Столькі прыбавілі да яго ўзросту археолагі Беларускага і Гомельскага дзяржаўных універсітэтаў, якія праводзілі раскопкі гарадзішча „Замкавая гара“.

## 50-ГОДДЗЕ ПАЭМЫ

У Мінску ўрачыста адзначана была 50-ая гадавіна з дня выхаду першага выдання паэмы Якуба Коласа „Новая зямля“. На вечары, які адбыўся ў актавай зале Мінскага палітэхнікума, выступілі навуковы супрацоўнік Музея імя Я. Коласа І. Курбека і кандыдат філалагічных навук І. Казбярук. Прысутныя цёпла сустрэлі старэйшага беларускага паэта Міколу Хведаровіча. Ён прыгадаў свае сустрэчы з Якубам Коласам і прачытаў вершы, прысвечаныя народнаму песняру. Затым выступілі студэнты і акцёры, якія чыталі ўрыўкі з паэмы.

## НОВЫ РАМАН М. МАШАРЫ

Вядомы беларускі пісьменнік Міхась Машара напісаў новы раман, дзеянне якога ахоплівае перыяд з верасня 1939 года да сярэдзіны 1941 года. Аўтар прасочвае падзеі ў былой Заходняй Беларусі. (вр)




**Niedziela — 23.XII.**

7.30 TV Kurs Rolniczy. 8.05 Przypominamy, radzimy. 8.15 Nowoczesność w domu i zagrodzie. 8.35 Alarm przeciwpożarowy trwa. 8.45 Bieg po zdrowie. 8.55 Program dnia. 9.00 Dla dzieci: „Przygody Myszki Miki” („Disneyland”). 9.50 Antena. 10.05 PKF 10.15 „Ridolini” — film archiw. („W starym kinie”). 11.10 Klub Miłośników Sztuki — reportaż. 12.00 Dziennik. 13.55 Program dnia. 14.00 Dla dzieci: III Telewizyjny Festiwal Widowisk Lalkowych (inauguracja) A. i J. Afanasjew „Czarodziejski młyn”. — widowisko Państwowego Teatru Lalek „Miniatura” w Gdańsku. 15.15 Losowanie Totolotka. 15.30 Wielka gra. 16.25 „Na wiśnickim zamku” — reportaż. 16.40 Estrada poetycka — Juliusz Słowacki „Do niej”. 16.50 Święto wiosny — filmowa wersja baletu I. Strawińskiego. 17.25 „Ringo Kid” — film fab. (western). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 „Czarne chmury” — film pol. — odc. I „Szafot”. 21.20 „Dobry wieczór — tu Łódź”. 22.20 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek — 24.XII. (Wigilia)**

8.55 Program dnia. 9.00 Dla młodych widzów: „Teleferie”. 10.30 Piosenka dla Ciebie. 11.30 Przemiany. 12.00 Dziennik. 12.15 Piórkiem i węglem. 12.40 „Zwierzyna płowa” — film dok. węgierski. 13.20 Dla dzieci: „Tropiciele śladów” — film fab. rum.-kanad. 15.00 „Góralskie podłazy czyli chodzenie z kolędnikami i szopką na gody”. 15.40 Kaprysy „Ludojada” — reportaż sportowy. 16.00 „Historia niezupełnie prawdziwa” — film rozrywk. 16.25 „Zimowa Olimpiada w Sapporo” — film jap. 18.10 Popołudnie w Kadzidle — reportaż (Wieczór autorski W. Żukrowskiego). 18.40 „Witaj chłopczyku po sto razy” — pastorałki staropolskie. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Gospoda pod piórem i gitarą („Chleb”) — program poetycko-muzyczny. 20.35 Teatr TV: Aleksander Fredro „Damy i huzary”. 22.00 „Księżniczka Czardasza” — film fab. węg.

**Wtorek — 25.XII. (I Dzień Świąt)**

8.55 Program dnia. 9.00 Dla dzieci: „Nagroda Kaczora Donalda” („Disneyland”). 9.50 „Araukania” — 1 odc. z cyklu filmów S. Szwarc Bronikowskiego z Ameryki Południowej. 10.20 „Tajemnica panny Brinx” — film archiw. pol. („W starym kinie”). 11.45 „Wiraż nadziei” — reportaż sportowy. 12.10 „Balet na wesele królewskie” — program muz.-baletowy. 12.50 Dla dzieci: „Przygody żółtej walizeczki” — film fab. radz. 14.05 „Mistrzowie operetki — Franciszek Lehar”. 15.15 „Ci wspaniali mężczyźni w swoich latajacych maszynach” — film fab. ang. 17.30 Tele-Echo (Wydanie specjalne). 18.30 „Program pod psem” — program rozrywkowy. 19.00 Dla dzieci: „Wieczornica z Dzięcielinkiem”. 19.30 Dziennik. 20.05 „Zasadzka” — film franc. — VII odc. (ostatni) („Pani de Monsoreau”). 21.05 „Świąteczna wizyta” — piosenki 30-lecia. 22.00 Teatr Rozrywki: Claude Magnier „Paryżanin”. 23.15 „Gwiazdkowa Canzonissima” — włoski program rozrywkowy.

**Środa 26.XII. (II Dzień Świąt)**

8.55 Program dnia. 9.00 Dla dzieci: „Cztery opowieści o Myszce” („Disneyland”). 9.50 Stadiony świata — program sportowy. 10.30 Ósmy kontynent (Klub Sześciu Kontynentów). 11.15 „W Jędrzejowie za zieloną bramą” — reportaż. 11.50 Dziennik. 12.10 „Kłaniaj się górom” — z wizytą u Katarzyny Gaertner. 12.40 „Gody, godnie święta” („Zwyczaje i obrzędy”). 13.10 „Valse brillante” — film archiw. franc. z udziałem Jana Kiepury i Marty Eggerth („W starym kinie”). 14.40 Losowanie Małego Lotka. 15.00 Wiem wszystko — teleturniej. 15.40 „Tajemnica Adriatyku — film dok. jugosł. 16.05 „Nie lubię poniedziałku” — film fab. pol. 17.50 Forum. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Działa Nawarony” — film fab. USA. 22.45 Wiadomości sportowe.

**Czwartek — 27.XII.**

8.55 Program dnia. 9.00 Dla młodych widzów: „Teleferie”. 10.40 „Zasadzka” — film franc. — VII odc. (ostatni) (Pani de Monsoreau). 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: III Telewizyjny Festiwal Widowisk Lalkowych — M. Kownacka i J. Kurczewski „Lajkonik” — widowisko Państwowego Teatru Lalki i Aktora „Marcinek” w Poznaniu. 17.40 PKF. 17.50 Merkury—73 — reportaż. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 Kwadrans akademicki. 19.10 Przypominamy, radzimy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr Sensacji: Jacques Remy, Louis C. Thomas „Wspólniczka”. 21.05 Teatrzyk Antoniego Marianowicza „Witryna satyry”. 22.00 Dziennik. 22.15 Wiadomości sportowe.

**Piątek — 28.XII.**

8.55 Program dnia. 9.00 Dla młodych widzów: „Teleferie”. 10.35 „Czarne chmury” — film TVP — odc. I „Szafot”. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: III Telewizyjny Festiwal Widowisk Lalkowych — Stefan Themerson „Marcelianek majster klepka” — Widowisko Państwowego Teatru Lalek „Pleciuga” w Szczecinie. 17.40 Nie tylko dla pań. 18.00 „Rodzina Durtolów” — film franc. — odc. XV. 18.25 Kronika Warszawy i Mazowsza. 18.45 Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Złota płyta dla Urszuli Sipińskiej. 20.45 Panorama. 21.45 „Gwiazdy siedmiu stolic — głos ma Belgrad”. 22.55 Dziennik. 23.10 Wiadomości sportowe.

**Sobota 29.XII.**

8.55 Program dnia. 9.00 Dla młodych widzów: „Teleferie”. 10.35 „Wódz Seminolów” — film fab. NRD. 15.15 Program dnia. 15.20 Program I proponuje. 15.45 Spacerkiem po kinach. 16.15 Telereklama. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci: III Telewizyjny Festiwal Widowisk Lalkowych — Janina Kilian-Stanisławska wg Collodiego „Pinokio” — Widowisko Państwowego Teatru „Lalka” w Warszawie. 17.40 Spotkania z przyrodą. 18.05 Turystyka i wypoczynek. 18.35 Pegaz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 III Telewizyjne spotkanie z balladą. 21.15 „Koty” — film fab. franc. 22.50 Dziennik. 23.10 Wiadomości sportowe. 23.20 Studio Przebojów — program rozrywkowy TV NRD.

**Niedziela — 30.XII.**

7.30 TV Kurs Rolniczy. 8.05 Przypominamy, radzimy. 8.15 Nowoczesność w domu i zagrodzie. 8.40 Bieg po zdrowie. 8.55 Program dnia. 9.00 Dla dzieci: „Nagroda Kaczora Donalda” („Disneyland”). 9.50 Encyklopedia Tatrzańska — w setną rocznicę powstania Towarzystwa Tatrzańskiego. 10.20 „Oto król” — reportaż sportowy. 10.35 PKF. 10.45 „UNICEF 73”. 12.00 Dziennik. 14.15 Program dnia. 14.20 Turniej Czterech Skoczni — skoki narciarskie (Obersdorf). 15.40 Interstudio. 16.20 Poezja Polska: Adam Mickiewicz „Pani Twardowska”. 16.30 Losowanie Totolotka. 16.45 „Winchester 73” — film fab. USA. 18.15 „Rok 1973” — przegląd wydarzeń politycznych roku. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Krwawe swaty” — film TVP—odc. II („Czarne chmury”). 21.15 „Puchowy śniegu tren — czyli rewia na zimno”. 22.25 Magazyn sportowy.

 

## Ліст з Задрыпанкі

# Гапка - раскольніца

На справаздачным сходзе гуртка БГКТ Гапка паставіла моднае пытанне:

— А што праўленне зрабіла ў галіне прагназіравання?

Старшыня, параіўшыся з праўленнем, адказаў:

— Прадбачваецца павелічэнне аплачвання членскіх складчын з 32,1% (цяпер) на 100% у 1990 годзе (верхні рубеж нашага прагназіравання).

Адказ старшыні не задаволіў Гапкі і яна паставіла наступнае пытанне:

— На якіх асновах абаперта такая аптымістычная дынаміка ўзросту?

Аказалася, абаперта яна на ўнутраным чуцці праўлення. Даказаўшы ненавуковасць такога метаду, Гапка перайшла ў франтальнае наступленне па зыходных пазіцыях даклада.

Змяўшы меркантыльныя тэндэнцыі ў дзейнасці БГКТ („складчыны — праблема № 1“), яна забушавала па акадэмічнай плыні („тэмай пасяджэнняў былі такія праблемы, як арганізацыя акадэміяў з нагоды розных гадавін і г.д.“), урэшце ўварвалася на раздутыя тылы фармалістыкі („трэба на кожнага члена залажыць папкі, абяспечыць жалезную шкатулку: замацаваць яе ў шафе або сталe, кожную дзейнасць гуртка дакументаваць адпаведным пратаколам“).

Пасля выступлення Гапкі ўсім стала ясна, што на ролю гуртка трэба глянуць шырэй. І ўсе былі згодны: далягляд пашырыць прагназіраванне.

Узнік творчы непакой. І як бывае ў кожнай творчай атмасферы, з'явіліся палярныя ізабары.

Кастусь прапанаваў перш за ўсё ўлічыць дэмаграфічны выбух. Вачыма душы бачыў ён задрыпанскі мурашнік неймаверных памераў, у апакаліптычных рамках.

— Як тады будзем рашаць Праблему № 1? — пытаў ён. — Якія шкатулкі (і дзе) будзем замацоўваць? У якіх пограбах хаваць персанальныя папкі членаў? У якіх залах ладзіць акадэміі?

Парфен уяўляў будучыню, як спляценне чалавека з машынай, і „акадэмічнае“ пытанне вырашаў проста:

— На святкаванні будзем ездзіць у ГП, — сказаў.

У іншых пытаннях таксама не бачыў цяжкасцей. Персанальным папкам адводзіў месца ў кантэйнерах, якія заўсёды можна хутка даставіць куды трэба, а Праблему № 1 вырашала ў яго электронная лічыльна-перадатачная ўстаноўка, якою Парфен прапанаваў абяспечыць усіх членаў.

Здавалася, верх брала аптымістычная лінія, калі Кастусь выцягнуў з укрыцця гаўбічную артылерыю.

— Усім вядома, — сказаў ён, — што ўзрастае ў нас вандалізм. Невыпадкова! Простая арыфметыка гаворыць аб тым, што чым больш людзей, тым больш вандалаў. Якая тэхніка, пытаю я, ацалее з той Вальпургіевай ночы, якую прынясе эпагей дэмаграфічнага выбуху?

Запанаваў настрой прыгнечання. А Кастусь, ацаніўшы трапнасць пападання, лупцаваў далей:

— А страхі?! Вучоныя даказваюць, што ў перанаселеных абшчынах выбухне эпідэмія страху. Хто тады супрацівіцца вандалам?

Парфен ухапіўся за апошнія словы Кастуся і спрабаваў нанесці стрэл у адказ (маўляў, калі выбухне эпідэмія страху, дык яна паралізуе і вандалаў), але ядро не ўзарвалася (Кастусь парыраваў: вандалізм выпрацуе супрацьвірусны імунітэт).

Пагражала сэцэсіяй. Але ў пару прыбыў актывіст з павету. Пазнаёміўшыся з канцэпцыямі бакоў, ён прапанаваў спыніць тэарэтычную дыскусію, як належна не падрыхтаваную, і спытаў:

— А як у вас са складчынамі?

Становішча было аднаўлена. Гурток кансалідаваўся, канцэнтруючы ўсю сваю ўвагу на рашэнне Праблемы № 1. Усе згаджаліся: задача хоць і цяжкая, але пад сілу. Пастанова давесці да стопрацэнтнага аплачвання складчын у 1990 годзе прайшла адзінадушна. Прайшлі таксама шкатулкі, папкі і пратаколы з кожнага дзеяння (гэта даверылі мне).

Чад Кастусёвага візіянерства рассейваўся і адкрывалася перад намі ясная перспектыва. Толькі Гапку мучылі згрызоты: запрагназіравала ж яна... раскол.

**Ваш Даніла**

# „Курпям зялёным“ XX год

А ўсё пачалося з таго, што ў 1952 г. настаўнік Беластоцкага педагагічнага ліцэя С. Сабярайскі — вялікі прыхільнік і знаўца народнай песні — накіраваўся разам з такімі ж, як ён, энтузіястамі народнасці ў Курпёўскую пушчу збіраць вусную народную творчасць. Захоплены яе багаццем, вяртаецца туды яшчэ некалькі разоў, а з запісаных мелодый, убачаных звычаяў, абрадаў, танцаў і ўбораў у С. Сабярайскага фарміруецца арыгінальная курпёўская праграма. На базе беластоцкага хору „Рэха“, мастацкім кіраўніком якога ён быў, у лістападзе 1953 года С. Сабярайскі засноўвае калектыў песні і танца „Курпі зялёныя“. Ужо першае выступленне маладога калектыву, якое ён даў на першамайскай акадэміі ў 1954 г., сустрэлася з цёплым прыёмам і адабрэннем беластаччан. У тым жа годзе „Курпі зялёныя“ выступілі ў Гайнаўцы, Элку, Ломжы і Лапах, затым у Лясной оперы ў Сопаце, Гданьскай верфі і на дажынках у Любліне.

Калектыў увесь час няспынна ўдасканальваў сваё выканаўчае майстэрства, узбагачваў рэпертуар, убіраў у сябе новыя таленты.

Аснову рэпертуару складаў фальклор заходняй часткі Беласточчыны: інсцэнізацыі „Курпёўскія абразкі“, „Курпёўскае вяселле“, „Наднараўскія прачкі“, сюіты курпёўская, падляшская, паляўнічая (на курпёўскім матэрыяле), шэраг песень, частушак і танцаў з Курпяў і Падляшша. А побач з імі фальклор іншых рэгіёнаў Польшчы — песні і танцы люблінскія, апачынскія, шлёнскія, кракаўскія, цешынскія, жэшоўскія, а таксама іншых народаў, у тым ліку рускія і беларускія.

З часам калектыў узбагачае свой рэпертуар музыкальнымі і вакальнымі творамі прафесіянальных кампазітараў: фрагментамі з опер С. Манюшкі „Галька“ і „Страшны Двор“, А. Барадзіна „Князь Ігар“; а таксама паланезам А-дур Ф. Шапена і вальсамі І. Штрауса. Музыкальныя праграмы аздабляюцца мастацкім словам, паэзіяй У. Бранеўскага і У. Маякоўскага, а з калектывам выступаюць артысты такой рангі, як Г. Сланіцкая і В. Семён.

Увесь звыш 70-асабовы калектыў „Курпяў зялёных“ складаецца з самадзейнікаў, якія большасць свайго вольнага ад працы часу аддаюць рэпетыцыям і канцэртам. На працягу 20 год свайй дзейнасці калектыў даў каля 600 канцэртаў для 500 тысяч гледачоў. Выступалі яны амаль ва ўсіх большых гарадскіх цэнтрах Польшчы. З цёплым прыёмам і высокай ацэнкай сустрэліся ў 1959 г. у ГДР, дзе канцэртавалі два тыдні. Добрае ўражанне пакінулі сёлета ў час канцэртаў у Румыніі. Упершыню выехалі ў Савецкую Беларусь у 1957 г. і ад таго часу гасцявалі на беларускай зямлі, наведваючы Гродзеншчыну, ужо шэсць разоў. У 1971 г. „Курпі зялёныя“ далі двухгадзінны канцэрт у Гродзенскай тэлевізійнай студыі.

Высокі мастацкі ўзровень калектыву быў пацверджаны шэрагам каштоўных узнагарод. У 1970 г. на III Агульнапольскім кірмашы песні і танца ў Мельцу „Курпі зялёныя“ заваявалі „Залатое крыло Ікара“, у 1971 г. на Фестывалі культуры прафсаюзаў у Быдгашчы — Галоўную ганаровую ўзнагароду. Калектыву прызнана таксама адзнака „Заслужаны Беласточчыне“.

У пачатку снежня сваё дваццацігоддзе „Курпі зялёныя“ адзначылі двума канцэртамі ў Беластоку, даход з якіх прызначылі на адбудову Каралеўскага замка ў Варшаве.

Пад музычным кіраўніцтвам Е. Сьрудкоўскага, з харэографам і рэжысёрам В. Дамброўскім яны, як заўсёды, маладыя, спеўныя і казачна красачныя.

**Мікалай Гайдук**




**Хлебам і соллю віталі „Курпяў зялёных“ на беларускай зямлі іх калегі з гродзенскага калектыву песні і танца „Нёман“. 1971 г.**

**Фота В. Дамброўскага**

# Пра жыццё-быццё пра колішняе...

Шукаючы прошлага, я наведала цётку Ганну, якую некаторыя назвалі б бабулькай, але для мяне, колішняй яе суседкі, назаўсёды застанецца цёткай Ганнай, хоць гадзіннік яе жыцця вызваніў ужо 77 год.

Цётка Ганна цэлае жыццё пражыла ў той жа самай вёсцы Плёскі, што на Бельшчыне. Тут нарадзілася, выйшла замуж, выгадавала дзяцей... У дзецях цётка Ганна не мела таго шчасця, што іншыя — пахавала дарослага сына, свой найдаражэйшы скарб, а нядаўна — і мужа, які ўсё сваё жыццё быў сапраўдным яе прыяцелем. Цяпер засталася адна ў той хаце, якую разам з мужам будавалі, і якая ёй вельмі дарагая, бо напамінае колішняе жыццё. І хаця было яно цяжкае і нямала цётка нагаравалася, але тады ж праходзілі яе маладыя гады, а з імі сіла, здароўе, радасць...

Цётка Ганна і цяпер не наракае:

— Някепска мне жывецца, бо цяжка не працую: дачка з зяцем ды ўнукі ўжо гаспадараць і мне ва ўсім памагаюць. Толькі вось здароўя няма, што ж — гады робяць сваё, — дакінула яна са смуткам. — Але люблю часам надзець акуляры, узяць „Ніву“ ў рукі ды пачытаць. Ой, люблю чытаць, а калі мне сумна, дык і ціхенька заноціць колішнія песенькі.

Мяне зацікавілі даўнія песні цёткі, якія вельмі трапна малююць вобраз мінулага сялянскага жыцця, і я папрасіла цётку Ганну праспяваць мне некалькі. Яна ахвотна згадзілася.

Нялёгка калісьці жылося нявестцы ў хаце свёкраў:

У сокола золоты пера,
а ў павонькі косы,
ой, нэ ўжыла жадна нэвестка
у свекорка роскошы.
Свекорко ходіт по новых сенях
І нэвесточку пробуджае:
— Уставай, нэвесто, уставай, молода,
Ужэ другі куры пеют!
Нэвестка встала, тяжко ўздыхнула,
ой, жалосно заплакала:
— Бодай я молодэнька, того гора нэ знала,
куры я ўчула, тоўкучы і мэлючы,
а зоры познала рано, по воду ідучы.

Але і ў тыя цяжкія часы „блукала“ па людзях каханне, і тады, як і сёння, дзяўчына чакала свайго любага. Няславай было аднак кахаць маладому хлопцу ўдаву.

— Чом, Ясю, нэ быў,
чом нэ прыехаў,
як я тобе казала?
Чы коня нэ меў,
чы вдома нэ быв,
чы матуля нэ казала?
— Быў жэ я вдома,
меў жэ я коня,
і матуля казала.
Е ў мэнэ сэстра,
Шчэ й замуж нэ йшла,
вона мэнэ одраджала:
— Нэ едь, нэ едь, браце родзоны,
до ўдовы ў залёты,
ты ў панны піеш,
з конем вывіеш,
вона тобою рада.

Кожнай працы спадарожнічала людзям песня. З ёй было лягчэй на душы, яна не раз казала забываць, што кепскае, горкае, яна і весяліла, і цешыла. Цётка Ганна памятае многа старадаўніх песень, сумных і жартоўных. Скончыўшы спяваць, цётка спусціла галаву...

Я глянула праз акно на вуліцу і ўбачыла ўжо іншую вёску, іншых людзей, пачула іншыя песні... І на хвіліну задумалася: якой будзе наша вёска яшчэ праз пяцьдзесят год? Ці і мне, калі выпадзе яшчэ дажыць, падобна, як і цётцы Ганне, будзе яна мілейшай, бо была вёскай маёй маладосці?..

**Н. Андрэюк**

Песні запісаны ад 77-гадовай Анны Васілюк з Плёскаў.




*Карэспандэнцыя з Мінска*

# Адгалоскі слаўнай гадавіны

Днямі атрымалі мы з Мінска фотаматэрыял са святкавання трыццатай гадавіны Войска Польскага на беларускай зямлі. Як мы ўжо паведамлялі, цэнтральная ўрачыстасць адбылася пад Леніна, дзе 30 год таму адбылося баявое хрышчэнне касцюшкоўцаў, якія далі пачатак нашаму народнаму войску. У гэтай урачыстасці прымала ўдзел шматлікая польская дэлегацыя. На здымку, які публікуем, адлюстраваны момант перадачы Музею савецка-польскай баявой садружнасці, які заснаваны на месцы гістарычнай бітвы, 17 урнаў з зямлёй з брацкіх магіл савецкіх воінаў, загінуўшых пры вызваленні Польшчы ад гітлераўскіх захопнікаў.

**Фота В. Казлова**



 

 



НА СПАРТЫЎНАЙ НІВЕ

## РЭКОРДЫ БОРТНІКА

Багуслаў Бортнік, ураджэнец Бельска, з'яўляецца вучнем Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Тадэуша Касцюшкі ў Бельску. Высокі, стройны, сур'ёзны юнак. Калі меў дзевяць гадоў, пачаў вучыцца страляць з лука. Першыя поспехі акрылілі сэрца маладога хлопца. Пачынае трэніроўку ў лучнічай секцыі „Смелы". Не пакідае яе і зараз. Увесь час займаецца з ім і трэнер Станіслаў Пэтрук.

Цяпер Багуслаў Бортнік шырока вядомы на Беласточчыне і ва ўсёй краіне. Ён адзін з лепшых лучнікаў. Сёлета яго выдатны талент праявіўся на агульнадзяржаўных спаборніцтвах маладых стральцоў з лука ў Кракаве. Багуслаў Бортнік заваяваў залаты медаль і ўстанавіў новы рэкорд Польшчы ў катэгорыі юнакоў. Акрылены поспехам, ён удзельнічае ў спаборніцтвах старэйшых. Заваёўвае другое месца. Варта ведаць, што Багуслаў Бортнік, апрача таго „выстраляў" чатыры новыя рэкорды на ваяводскіх спаборніцтвах па стральбе з лука — на 70, 60, 50 і 30 метраў. Ён уваходзіць у склад зборнай каманды краіны. Рыхтуецца да ўдзелу ў чэмпіянаце Польшчы. Запаветная яго мара — заваяваць права ўдзельнічаць у чэмпіянаце Еўропы.

Гаварылі мы аб рэкордах Багуслава Бортніка. Аднак дарога да іх не была высцелена ружамі. Багуслаў Бортнік перш за ўсё вучань сярэдняй школы. Спаборніцтвы па стральбе і трэніроўка займаюць многа часу. Пасля кожнай паездкі на спаборніцтвы трэба даганяць аднакласнікаў у навуцы. Таму дапамагаюць яму хутчэй засвоіць пройдзенае настаўнікі і сябры-вучні. Багуслаў Бортнік вучыцца таксама паспяхова.

Наш лепшы стралец з лука з'яўляецца ў апошнім часе ў выдатнай форме. Гэта перш за ўсё вынік пастаяннай трэніроўкі. Да рэпертуару сваіх фізічных практыкаванняў Багуслаў Бортнік уключыў яшчэ іншы від спорту — баскетбол. Яму неабходна быць вынослівым і сільным. Баскетбол, аказваецца, мае шмат элементаў гартавання мускулаў. Сіла вельмі патрэбна, каб правільна выпусціць стралу.

**Я. Цялушэцкі**

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

*ЖАРТОЎНАЯ*







*Ой, хадзіла дзеўчына беражком!*
*Ой, хадзіла дзеўчына беражком,*
*Заганяла селезня баціжком.*
*Заганяла селезня баціжком:*
*— Ідзі, ідзі, селезень, дадому!*
*Ідзі, ідзі, селезень, дадому —*
*Прадам цібе жыдаві рудому.*
*Прадам цібе жыдаві рудому.*
*За тры копы селезня прадала,*
*За тры копы селезня прадала,*
*А за копу дударыка наняла.*
*А за копу дударыка наняла:*
*— Зайграй, зайграй, дударыку, на дуду!*
*Зайграй, зайграй, дударыку, на дуду —*
*Ніхай жэ я свае горэ забуду.*
*Ніхай жэ, я свае горэ забуду.*

Ад Гэлены Тычынскай, 1923 года нараджэння, вёска Мастаўляны Беластоцкага павету, запісаў 25 кастрычніка 1973 года Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіў Эдуард Гойлік.

* * *

...Пытае вецер у раслінак:
— Чаму зіма вас не ўзяла? —
І кажуць тысячы былінак:
— Мы ад зямельнага цяпла! —
Пытае холад у крыніцы:
— Чаму цябе я не спыніў? —
Яму адказвае вадзіца:
— З зямлі струменіць мой разліў. ·
Пытае бура старца-дуба:
— Чаму цябе я не зламлю? —
І кажа дуб: — Я ўрос ў зямлю,
З зямлёю жыць у дружбе люба.

**Якуб Колас**

ТАК БЫВАЕ...

## Старыя і маладыя

Па сярэдзіне вёскі Лука стаіць хата сталяра Івана Байчука. Хата такая ж, як іншыя хаты ў вёсцы. Нічым асаблівым не выдзяляецца. Жыхары толькі ў ёй асаблівыя. Столяр Іван больш любіць грошы, чым сваю прафесію, і таму часта наракаюць на яго людзі, якія заказваюць у яго сталярку. Але ён не пераймаецца такімі дробязямі. Не пераймаецца ён і тым, што яго родная маці, якая жыве ў другой палавіне хаты, вядзе вечны бой з нявесткаю, яго жонкаю Зінаю. Раней маці судзілася з сынам за аліменты, але гэтым таксама ніхто там не пераймаецца. Дзеці Івана і Зіны не любяць бабку. Павырываюць ёй нешта ў агародзе, зачыняць старую ў хляве і другімі жартамі ёй надакучаць. Нядаўна гэтая бабуля (завуць яе Анна Байчук) галасіла па вёсцы, што нявестка Зіна ўкусіла яе за палец. Гэтага, праўда, ніхто не бачыў і ніхто не ведае дакладна, як там было. Але кажуць людзі ў Луцэ, што Анна Байчук — кабета сварлівая, задзёрлівая, непаўстрыманая і што менавіта яна без патрэбы чапляецца да нявесткі Зіны, якая ў вёсцы не лічыцца кепскім чалавекам. Жыхары Лукі, асабліва старэйшае пакаленне, звальвае ўсю віну на старую і гаворыць: „Так ёй трэба, адплата за здзекі належыцца". І вось тады прыпамінаюць факты нялюдскіх адносін Анны Байчук да сваёй свякрухі.

Хто яго ведае, каго там абвінавачваць, каго хваліць. У сямейных справах разабрацца не так лёгка, аднак людзі, якія столькі год жывуць па-суседску, штодзень сустракаюцца, могуць мець свой погляд. І ацэньваюць людзі Анну Байчук, як чалавека, як члена сям'і, адмоўна.

*

У Луцэ ёсць яшчэ адна Анна, Анна Стоцкая, якая адчувае сябе страшэнна пакрыўджанай свякрухаю. У яе было тры дачкі і два сыны. Усе ўжо сямейныя і ўсе жывуць у Луцэ. З сынам Васем, яго жонкаю Вераю і двума іх дзецьмі жыла разам і Анна Стоцкая. Калі гэты сын з нявесткаю пабудавалі новую хату, у старой хаце асталася жыць свякруха. Харчавымі прадуктамі забяспечвалі яе Вася з Вераю. І хлеб, і малако, і крупы, а пасля ўбою чаго-небудзь з хатняй жывёлы, трэцюю частку аддавалі маме, Анне.

Гадоў шэсць таму назад у сям'і Стоцкіх здарылася вялікае няшчасце. Васю забіла ў лесе падаючым дрэвам. Якое гора, якая крыўда на лёс, можам сабе ўявіць, калі дадаць, што сямейнае жыццё Васі і Веры было дружнае, было прыкладнае. Вера, прыбітая горам, цяжка працавала на гаспадарцы, выхоўвала дзяцей і апекавалася старой свякрухай.

І вось нядаўна пасватаўся да яе вельмі салідны чалавек і добры гаспадар з вёскі Крывец. За добрасць, за чалавечнасць лёс быццам узнагародзіў яе. Вера выйшла замуж. Яна зноў мае блізкага чалавека, з якім дзеліць і радасці, і гора.

Здавалася б, павінна быць задаволена свякруха Анна, што яе нявестка, якой яшчэ далёка да саракоўкі, не будзе ўдавою. Але дзе там. 80-гадовая свякруха не хацела, каб Вера выйшла замуж, а калі ўжо выйдзе, каб нічога з гаспадаркі не ўзяла. І пачаліся непатрэбныя сваркі. Анне Стоцкай здаецца, што яе скрыўдзіла нявестка, пакідаючы ёй 10 мяшкоў збожжа, дзве авечкі, свінню і яшчэ там тое-сёе. Хату і будынкі пакінула яна сыну, які хутка закончыць сярэднюю школу ў Бельску і, калі захоча, будзе гаспадарыць на бацькаўшчыне. А ў Анны Стоцкай ёсць у Луцэ замужам тры дачкі і жанаты сын, ёсць каму заапекавацца, ёсць каму забраць яе нават да сябе. Але родныя дзеці зусім не спяшаюцца ўзяць яе ў сваю хату, бо ведаюць, што разам з ёю прыйдуць новыя непаразуменні. Ды і яна да іх не спяшаецца.

Нездарма гавораць, што часам са старымі горш, як з малымі.

**М. Хмялеўскі**

да дзяцей. І што тады бывае? Едзе, скажам, „карэтка" недзе ў раён вёскі Зубкі. Як бы ні было, ад Беластока больш за 50 км. Лекар агледзеў дзіця, абстукаў, абслухаў, у роцік заглянуў. Пасля аднак выпісвае звычайны рэцэпт і, калі ласка, тата з мамай, едзьце ў аптэку, даставайце, як хочаце. А дзе ў такіх Зубках аптэка? Аптэчны пункт і той толькі з раніцы дзейнічае. А вечарам нават у Беласток няма чым дабрацца. А калі гэта яшчэ субота або перэдадзень якога свята?

Кляне тады бацька такі на чым свет стаіць: „І навошта вы мне тут здаліся, навошта прыехалі? Ну што я, — кажа, — дзіцяці гэту пісульку вашу каўтнуць даць маю ці як?"

І праўду ён кажа. „Карэтка" напэўна дарма прыехала, туды і назад больш 100 км дарма таўклася, больш за 2 гадзіны дарагога часу змарнавала. Толькі навошта яе наогул клікалі? Ёсць пункты аховы здароўя. У іх лекары. Туды якраз (а не ў „хуткую дапамогу") са звычайнымі хваробамі звяртацца трэба.

Бачыце, колькі праблемаў?

І вось толькі тады, калі людзі іх зразумеюць, „хуткая дапамога" зможа адразу выязджаць да кожнага, каму патрэбна неадкладная дапамога.

А пакуль што пачакайце, любенькія, цярпліва, пачакайце. Бо вашая ў гэтым віна і суседзяў вашых.

**Ларс**




## „ЧОРТАВАЯ СКРЫПКА"

Прозвішча Міхала Федароўскага вядома ўсім, хто бліжэй знаёміўся з беларускай праблематыкай, асабліва з польска-беларускім этнічным паграніччам. „Люд бялорускі" — гэта найбагацейшая і найбольш поўная крыніца духоўнай культуры беларусаў, пражываючых там, дзе сустракаліся, уздзейнічалі адна на другую і ствараліся культуры.

Першыя тры тамы „Люд бялорускі" выйшлі ў даваенны перыяд і сёння практычна даступныя толькі ў больших навуковых бібліятэках.

У першых трох тамах „Люду..." асаблівае месца займалі казкі, вераванні, забабоны, гумарыстычныя гісторыі, жарты.

Іменна першыя тры тамы „Люду..." паслужылі Аляксандру Баршчэўскаму да перавыдання выбару беларускіх казак. Кніжка мае загаловак „Чортавая скрыпка"*) багата ілюстравана каляровымі малюнкамі, аўтарам якіх з'яўляецца Мар'ян Мураўскі. Трэба адзначыць, што выдаўца пастараўся даць добрую паперу, а друк надаецца да чытання як для старэйшых, так і для дзяцей. Зборнік абымае цікавыя аўтэнтычныя апавяданні, якія даюць уяўленне аб жыцці вёскі ў канцы XIX і на пачатку XX стагоддзяў. У змешчаных тут казках шмат прыказак і прымавак, у якіх многа намёкаў на міжлюдскія адносіны.

Зборнік, які атрымлівае чытач, тым больш каштоўны, што матэрыялы збіраў Федароўскі на абшары, які сёння знаходзіцца па абодвух баках польска-савецкай граніцы, у асноўным на тэрыторыі сённяшняй Беласточчыны і Гродзеншчыны, а ў нас датычыць гэта Сакольскага, Беластоцкага і Бельскага паветаў.

Выбар папярэджвае прадмова А. Баршчэўскага, у якой знаёміць ён чытачоў з жыццём і творчасцю славутага этнографа-фалькларыста.

Спадзяемся, што „Чортавая скрыпка" добра будзе служыць папулярызацыі багатай народнай творчасці беларускага люду. Казкі, змешчаныя ў зборніку, — гаворыць А. Баршчэўскі, — паказваюць цесныя сувязі паміж беларускім і польскім казачным рэпертуарам. А. К.

*) Michał Fedorowski „Diabelskie skrzypce", Ludowa Spółdzielnia Wydawnicza, W-wa 1973, nakład 20 tys. egz., cena 50 zł.

## ВЯЛІКАЯ ПАДЗЕЯ

Нямнога ўжо вёсак на Сакольшчыне, якія не маюць электрычнага святла. Не мелі яго таксама Белагорцы і Вялікія і Малыя Азераны. І вось у канцы кастрычніка ва ўсіх хатах загарэліся электрычныя лямпачкі. Было гэта найбольшай падзеяй у гісторыі вёскі. Жыхары гэтых вёсак могуць цяпер карыстацца тэлевізарамі, радыёпрыёмнікамі, прасамі, сціральнымі і іншымі машынамі. (мх)

## ГС-аўскае будаўніцтва

Міхалоўская гмінная спулдзельня будуе на вёсках гандлёвыя пункты. Гандлёвы павільён будуецца ў Бандарах. Будуць там тры крамы, агульнай плошчай больш за 300 квадратных метраў.

Падобны гандлёвы павільён будуецца таксама ў Шымках. Як у адной вёсцы, так і ў другой, мясцовыя жыхары ўклалі шмат грамадскай працы. Але асноўныя работы выконвае ГС-аўская будаўнічая брыгада, якая складаецца з 20 чалавек на чале з Уладзімірам Філіпавым. (мх)



 

